


Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

13 верасня 2002 года
№ 37 (386)
Выходзіць па пятніцах




## Навіны рэгіёна

### Нарач абмялела дарэшты

МЯДЗЕЛ. У возеры Нарач зафіксаваны самы нізкі ўзровень вады за ўсе чатыры дзесяцігоддзі, што тут вядуцца назіранні. Ён складае 137 сантыметраў, у той час як сярэдні шматгадовы – 174. Звязана гэта з малой колькасцю ападкаў сёлета. Так, у жніўні іх выпала ў 8 разоў менш за норму.

Алесь ВЫСОЦКІ.

### Анатоль Лябедзька трапіў у ДТЗ

ВІЛЕЙКА. Дарожна-транспартнае здарэнне стала прычынай пераносу на сярэдзіну верасня сустрэчы старшыні Аб'яднанай грамадзянскай партыі Анатоля Лябедзькі з віляйчанамі.
5 верасня каля 18 гадзін пры пад'ездзе да месца запланаванай сустрэчы аўтамабіль, якім кіраваў Анатоль Лябедзька, сутыкнуўся з веласіпедыстам на скрыжаванні вуліц 17 Верасня і 1 Мая. На шчасце, абышлося без сур'ёзных наступстваў. Веласіпедыст з перавязаным локцем, а Анатоль Лябедзька на машыне без шкла і крыху памятым крылом раз'ехаліся.

Віталь ПАЎЛОЎСКІ.

### Кабельнае ТБ у эксперыменце

АСТРАВЕЦ. Тыдзень таму ў трох дамах аднаго з мікрараёнаў уключылі кабельнае тэлебачанне. Праўда, пакуль што ў якасці эксперыменту. Абаненцкай платы з жыльцоў не бяруць і пра падключэнне астатніх дамоў у райцэнтры гаворка не ідзе, бо на гэта няма грошай у астравецкай камунальнай гаспадаркі.

Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.

### Сенасховішча пайшло дымам

МАЛАДЗЕЧНА. Вечарам у панядзелак згарэла сенасховішча ў Гранічах.
Калгас "Бацькаўшчына" страціў 500 тон сена і саломы – каля пятай часткі ўсіх нарыхтаваных кармоў.
Следства вядзе міліцыя. Прычына пажару пакуль не ўстаноўлена.

Юрый КАРПІЦКІ.

### Узорныя «Праменьчыкі»

ВАЛОЖЫН. Дзіцячая студыя эстраднай песні "Праменьчыкі" пры раённым цэнтры культуры атрымала званне ўзорнай.
Гэта другі такі калектыў у раёне. Студыю "Праменьчыкі" стварыла мастацкі кіраўнік **Наталля Гаўрыс**. Удзельнікі студыі прымалі ўдзел і станавіліся лаўрэатамі тэлевізійнага дзіцячага фестывалю "Усе мы родам з дзяцінства" і рэгіянальнага фестывалю-конкурсу эстраднай песні "Адна зямля".

Наталля ШТЭЙНЕР.

### Новы начальнік міліцыі

МАЛАДЗЕЧНА. У сераду прайшоў прэс-цэнтр, на якім журналісты пазнаёміліся з новым начальнікам Маладзечанскага ГРАУС.
Гэта 38-гадовы Віктар Марозаў, які да гэтага працаваў начальнікам Заслаўскага ГАУС. Віктар Марозаў нарадзіўся ў Магілёўскай вобласці. У 1978 годзе разам з бацькамі пераехаў у Мядзел. У 1990 годзе закончыў вышэйшую школу МУС СССР і да 1996 года працаваў у Мядзельскім РАУС. У верасні 1996 года пераехаў у Заслаўе.

Аддзел інфармацыі "РГ".



Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.
Начальнік Маладзечанскага ГРАУС Віктар Марозаў.

## Надвор'е на выхадныя

Субота, 14 верасня

Мінск
5°C (уначы)
17°C (удзень)



Вільня
9°C (уначы)
20°C (удзень)



Нядзеля, 15 верасня

Мінск
7°C (уначы)
16°C (удзень)



Вільня
8°C (уначы)
17°C (удзень)



# Што згарыць, тое не згніе?

**МАЛАДЗЕЧНА. Вечарам 7 верасня загарэлася кватэра ў доме №68 па Вялікім Гасцінцы. Гэта трэці пажар у кватэры за паўгода. А жыхары гэтага і двух суседніх дамоў на тры дні пазбавіліся тэлефоннай сувязі.**

Агонь дабраўся да тэлефонных кабеляў, якія ішлі па сценах дома. У панядзелак немагчыма было дазваніцца да 168 абанентаў. У тым ліку і на два тэлефоны ў рэдакцыі "РГ".

Згарэўшая кватэра належыць грамадзянцы Г., якой каля сарака гадоў. Маці трох дачок і сына. Дзесяці тры гады таму, калі нарадзіла сына, развялася з мужам. Перад гэтым памерла маці. Любілі ў той кватэры заглядваць у чарку. Г. пазбавілі бацькоўскіх праў. Сына аддалі ў інтэрнат, малодшая дачка знаходзіцца ў сваякоў. Кватэра ператварылася ў прытон.

Прычына апошняга пажару – неасцярожнае абыходжанне з агнём пры курэнні. Гэтая кватэра гарэла і 30 ліпеня. Па той жа прычыне. Суседзі расказвалі, што пажар там быў і ў пачатку мая. Але тады агонь патушылі самастойна. Цяпер у кватэры засталася толькі канапа. Адключаныя святло і вада. Няма сантэхнікі.

Суседзі хвалююцца за сваю бяспеку: а што, калі зноў будзе пажар? Што рабіць з Г., не ведаюць. Невядома, хто падпальвае кватэру. Калі прыязджалі пажарныя, там нікога не было. Гаспадыня прыходзіла толькі праз некалькі дзён. Пасля апошняга пажару суседзі Г. не бачылі.

Начальнік Маладзечанскага ГРАУС Віктар Марозаў на скаргу суседзяў Г. адказаў, што работнікі міліцыі склалі адміністрацыйны пратакол на яе за парушэнне правілаў карыстання жылымі памяшканнямі. Матэрыялы праверкі адправілі ў адміністрацыйную камісію пры гарвыканкоме і псіханеўралагічны дыспансер.

Суседка ўспомніла, што Г. сама хацела, каб яе некуды ўладкавалі. Там, прынамсі, пакармілі б.

У сераду цесляры з другога домакіраўніцтва забівалі вокны ў гэтай кватэры. Да наступнага пажару?

Юрый КАРПІЦКІ,
Алег ГАРУНОВІЧ.



Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.
**Цясляр Васіль Шыцік рамантуе акно пасля пажару ў доме №68 па Вялікім Гасцінцы. Кватэра гарыць сёлета трэці раз. Пажар стаў прычынай сур'ёзнай аварыі ў тэлефоннай гаспадарцы – перагарэў кабель, праз які былі падключаныя 168 абанентаў.**

# Свята пісьменства

**МАЛАДЗЕЧНА. 8 верасня ў гарадскім парку прайшло свята беларускага пісьменства. Яно было прысвечана Янку Купалу і арганізавана цэнтральнай гарадской бібліятэкай імя М.Багдановіча.**

На свята запрасілі Ніла Гілевіча і Леаніда Дранько-Майсюка. Першы вельмі трапна назваў дзею, якая ішла ў парку на працягу трох гадзін: "Выдатны мантаж вершаў і ўспамінаў Янкі Купалы".

Але вядомыя госці большую частку канцэрта былі гледачамі. І толькі напрыканцы зачыталі некалькі сваіх вершаў. У цэнтры ўвагі былі тыя, хто выходзіў на сцэну. Вершы паэта змяняліся ўрыўкамі аўтабіяграфіі Купалы, якія "ён" жа і дэкламаваў. У гэты дзень "Купалам" пабыў вядучы спецыяліст раённага метадычнага цэнтра і рэжысёр народнага тэатра Генадзь Пшэнік:

— Цяжка было ўваходзіць у вобраз паэта. Але дапамагло тое, што ў нас з Купалам адна Бацькаўшчына. Ды і з яго творчасцю я знаёмы лепш, чым з творамі іншых беларускіх пісьменнікаў.

Янку Купалу лепш за ўсё ведалі яго сябры. Таму ўспаміны творчага настаўніка песняра Ядвігіна Ш, першага перакладчыка вершаў Купалы на рускую мову Максіма Горкага трапна дапаўнялі старонкі біяграфіі паэта, што зачытвалі вядучыя.

На летняй канцэртнай пляцоўцы гучалі вершы Купалы, песні на яго словы.

Алег ГАРУНОВІЧ.

■ НАШЫ СУСЕДЗІ

# Вытворчасць мяса ў Прыбалтыцы – перспектывы

**Нашы прыбалтыйскія суседзі – Літва, Латвія, Эстонія – у бліжэйшы час збіраюцца ўступіць у Еўрапейскі Саюз (ЕС). Але перад вытворцамі мяса і мясапрадуктаў гэтых краін стаяць вялікія праблемы ў дасягненні стандартаў узроўню ЕС.**

## Літва

Згодна з дадзенымі інфармацыйнага агенцтва LETA, дзяржаўная служба харчавання і ветэрынарыі (ДСХВ) паведаміла, што ў красавіку 2002 года ЕС вырашыў зняць забарону для літоўскіх вытворцаў свініны і прадуктаў з яе на экспарт у краіны ЕС. Гэтае рашэнне прынялі пасля агляду камісіяй ЕС літоўскіх заводаў па перапрацоўцы свініны . Афіцыйны прадстаўнік ДСХВ Літвы заявіў, што 147 прадпрыемстваў па перапрацоўцы мяса да 2004 года выйдуць на ўзровень еўрапейскіх стандартаў.

Хаця Літва і самы вялікі вытворца мяса ў Балтыйскім рэгіёне, але кіраўніцтва краіны нядаўна выказала шкадаванне наконт росту імпартнай мясной прадукцыі з суседняй Эстоніі. Эстонія імпартуе мяса з Фінляндыі, Даніі і некаторых іншых краін, перапрацоўвае яго для продажу як на ўнутраным рынку, так і за мяжу. Свініна і прадукты з яе, перапрацаваныя ў Эстоніі, склалі палову імпартаваных Літвой у першым квартлае гэтага года.

Згодна з дадзенымі Балтыйскіх дзелавых навін, ДСХВ Літвы прыняло рашэнне абмежаваць імпарт эстонскага мяса. Гэта выклікала станоўчыя эмоцыі ў літоўскіх мясавытворцаў. Бо ў Літве ёсць 33 вялікія свінагадоўчыя фермы, дзе можна вырошчваць штогод на кожнай ад 12000 да 54000 свіней. Некаторым з іх патрэбна рэканструкцыя, і на гэта звярнулі асаблівую ўвагу.



Фота IREX/ProMedia.

**Падобна на тое, што еўрапейскі рынак хутка атрымае канкурэнтаздольную мясную прадукцыю вытворчасці нашых суседзяў – Літвы, Латвіі і Эстоніі. Між тым айчыннае мяса выцясняецца расійскім нават у Беларусі. Мясная прамысловасць у нас пакуль мала механізаваная, працаваць на бойнях цяжка і непрэстыжна. Між тым, мы на знешнія інвестыцыі, у адрозненне ад балтыйскіх суседзяў, разлічваць не можам. Еўрапейскі цягнік рухаецца без беларускага вагона.**

## Латвія

За апошнія тры гады ў латвійскай мясной прамысловасці склалася ўстойлівая тэндэнцыя да паніжэння. Гэта адбіваюцца вынікі перабудовы ў мясной прамысловасці. Цяпер яна знаходзіцца ў пошуку росту прадукцыйнасці і паляпшэння якасці прадукцыі да еўрапейскіх стандартаў.

Латвійскі экспарт мяса знізіўся з 5588 тон у 1997 годзе да 1536 тон у 2000. Вядома, павялічыўся імпарт мяса. Аднак за гэты перыяд ён вырас ненамнога. І ў 2000 годзе склаў 21201 тону, што ацэнена ў 26,1 мільёна долараў. Гэтыя дадзеныя былі паведамлены аддзелам харчавання і сельскай гаспадаркі пры ААН.

Самым важным партнёрам Латвіі з'яўляецца ЗША. Экспарт амерыканскай сыравіны ацэнены ў 1998 годзе на 4,8 мільёна долараў, у 1999 годзе – на 4,9, у 2000 годзе – на 10,5, у 2001 – на 4 мільёны долараў. Дадзеныя прадастаўлены аддзелам Міністэрства сельскай гаспадаркі ЗША па рабоце з замежнымі партнёрамі. Як бачна з лічбаў, цяжкія дні станаўлення латвійскай мясной прамысловасці засталіся ў мінулым.

## Эстонія

У канцы 2000 года ў рэспубліцы працавала 278 мясаперапрацоўчых прадпрыемстваў, 17 з якіх буйныя. Але гэта на 27 прадпрыемстваў менш, чым у 1999 годзе. Да гэтага прывяла нізкая рэнтабельнасць ў мясной прамысловасці. Многім вытворцам патрэбны інвестыцыі для дасягнення стандартаў, якія ёсць у ЕС. Спецыфічная праблема Эстоніі – гэта неадпаведнасць утрымання жывёлы перад забоем і агляду жывёлы перад забоем еўрапейскім стандартам. Нізкі ўзровень прадукцыйнасці пры забоі жывёлы аказвае негатыўнае ўздзеянне на гігіенічны стан прадукцыі.

Асноўнымі прычынамі падзення інвестыцый у 2000 годзе былі высокія закупачныя цэны і нізкі прыбытак з-за фіксаваных цэн продажу. Аналіз, праведзены эстонскім інстытутам эканамічных даследаванняў, паказаў, што імпарт сыравіны склаў 27% свініны і 5% ялавічыны. Асноўнымі пастаўшчыкамі мяса ў Эстонію з'яўляюцца Данія, ЗША, Фінляндыя. Агульны прыбытак па прамысловасці склаў каля 1,5 мільёна долараў за дзевяць месяцаў 2000 года, што адпавядае 60% таго ж перыяду 1999 года. Гэта адбылося з-за зніжэння паставак мяса на ўнутраным рынку. Прыбытак служачых таксама знізіўся ў 2000 годзе на 36% пасля штогадовага росту на працягу 1996-1999 гадоў. ДСХВ Эстоніі лічыць, што 2002 год стане пераломным ў развіцці мясной прамысловасці рэспублікі.

**Алег САРОКА, кандыдат тэхнічных навук.**

■ ПРАФЕСІЯ

# Рэйкі-рэйкі, шпалы-шпалы...

**МАЛАДЗЕЧНА. Хто з нас не ведае гэтыя немудрагелістыя радкі, пад нягучнае дэкламаванне якіх так лоўка рабіць масаж дзецям: "рельсы-рельсы, шпалы-шпалы, ехал поезд запоздалый...".**

Прыгарадны цягнік "Маладзечна-Гудагай" адпраўляўся ў дарогу без усялякіх спазненняў – роўна ў 8.38. Колькі разоў даводзілася ехаць гэтым маршрутам – не злічыць. Здаецца, памятаю кожны паварот, кожны стык рэек, не кажучы ўжо пра чарговасць станцый і прыпынкаў. Але кожны раз "Падарожжа з Маладзечна ў Гудагай" і назад адбывалася ў вагоне. А гэта, самі ведаеце, абмяжоўвае агляд і пазбаўляе эмоцый першаадкрывальніка: што там наперадзе – здагадайся.

Гэтым разам пашанцавала – ехаць давялося ў кабіне дызель-цягніка. Перш чым атрымаць дазвол на падобную для журналіста раскошу, даў сабе зарок: і машыністу, і памочніку не перашкаджаць, з пытаннямі не прыставаць, увагу ад дарогі не адцягваць. А толькі ўсё ўважліва запамінаць і занатоўваць рэплікі і дыялогі лакаматыўнай брыгады.

Дызель-поезд брыгада прымае гадзіны за дзве да рэйса. Уважліва правярае важнейшыя вузлы і агрэгаты, замярае колькасць паліва ў баках (ад Маладзечна да Гудагая і назад у сярэднім расходуецца да 250-260 літраў саляркі). Асабліва ўнікліва ставіцца да работы тармазной сістэмы. Недзе за паўгадзіны да адпраўлення цягнік падаецца на пасадку. Пакуль пасажыры ўладкоўваюцца ў вагонах, машыніст і памочнік яшчэ раз аглядаюць "дызель", выстаўляюць на "нуль" стужку вымяральніка хуткасці. Яна для лакаматыўнай брыгады – як свяшчэнная карова для індуса: фіксуе хуткасць руху на перагонах, тармажэнне, сігналы святлафораў, прыпынкі. Па яе паказаннях, нібы па паказаннях знакамітай "чорнай скрыні" ў авіяцыі ў любы момант можна вызначыць дзеянні машыніста і памочніка на любым участку, пахваліць за пільнасць і прафесіяналізм альбо пазбавіць прэміяльных. Дарэчы, падобная сістэма "выхавання" рублём на чыгунцы, як заўважылі кіроўцы поезда, прымяняецца рэгулярна.

У кабіне лакаматыва, у адрозненне ад аўтамабіля альбо самалёта, няма ні рулявога кола, ні штурвала – збочыць з рэек поезд не ў стане. Ёсць толькі некалькі рычагоў – кантролер, кран машыніста, педалі, розныя тумблеры і кнопкі. Маю ўвагу найбольш прыцягнула педаль бяспекі, якую пра сябе назваў абаронай ад "дурня" альбо, наадварот, ад занадта разумнага машыніста: калі з яе прыняць нагу, то спрацоўвае сігнал папярэджвання, і праз сем секунд цягнік пачынае тармажэнне, пакуль не спыніцца зусім. Але ў маім выпадку і машыніст, і яго памочнік дзейнічалі па інструкцыі: вялі цягнік па графіку, спыняліся на станцыях і пунктах прыпынку, тармазілі і падавалі сігнал, дзе патрэбна і колькі патрэбна. У Гудагай – самую заходнюю чыгуначную станцыю рэгіёна – дабраліся, як і павінныя былі, – у 10.24. Без здарэнняў і прыгод.

Пакуль лакаматыўная брыгада рыхтавалася да зваротнай дарогі, задаў некалькі пытанняў машыністу.

**— Хто дапускаецца да кіравання пасажырскімі цягнікамі?**

— Паколькі наша лакаматыўнае дэпо грузавое, то перавозіць пасажыраў маюць права машыністы толькі I і II класаў. Прычым са значным стажам работы на чыгунцы.

**— Галоўнае правіла пры перавозцы пасажыраў – якое?**

— Забяспечыць своечасовую і бяспечную дастаўку іх да месца прызначэння. Праўда, бываюць пасажыры, якія цалкам забываюць, што чыгунка не месца для гульняў і прагулак, тым больш у нецвярозым стане. Іншым разам даводзіцца выводзіць іх з вагона пад рукі, адрываць ці не сілком ад лакаматыва. П'яны чалавек на пуцях – гэта найчасцей трагедыя. У нашым дэпо няшмат знойдзецца машыністаў, якім хоць аднойчы не давялося б выпіць з горкай чашы чалавечай трагедыі. Былі такія моманты і ў маім жыцці, калі пасля здарэння – смерці альбо калецтва чалавека – хацелася назаўсёды пайсці з чыгункі. Адно хіба толькі стрымлівала – разуменне таго, што тваёй віны тут няма. Таму мая просьба да кожнага, каму абыякавыя ўласнае здароўе і жыццё: пашкадуйце іншых, не старайцеся здабыць славу Ганны Карэнінай – копія заўсёды горш за арыгінал.

**Іван МЁДАЎ.**

## Курсы валют НБ РБ

| | 5 верасня | 12 верасня |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 1852,00 руб. | **1855,00** руб. |
| Еўра | 1840,24 руб. | **1810,39** руб. |
| Злоты | 450,41 руб. | **446,53** руб. |
| Літ | 532,89 руб. | **524,34** руб. |
| Расійскі рубель | 58,58 руб. | **58,63** руб. |

**«Вулічныя» курсы ў Маладзечне**

| | | |
|---|---|---|
| Долар | 1850-1870 руб. | **1850-1870** руб. |

## Маладзечна. Цэны ў сераду на рынку

| Прадукты | Цана (руб.) 4.09 | 11.09 |
|---|---|---|
| Кілбаса с/вялен., 1 кг | 10900 | **11700** |
| Сасіскі, 1 кг | 4900 | **2700** |
| Селядзец, 1 кг | 2500 | **2500** |
| Рыс, 1 кг | 700 | **680** |
| Грэчка, 1 кг | 530 | **550** |
| Цукар, 1 кг | 820 | **820** |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 1200 | **1200** |
| Алей, 1 л | 2000 | **1850** |
| Маянэз, 200 г | 400 | **400** |
| Кава "Пеле", 100 г | 2000 | **2000** |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 600 | **600** |
| Соус там. «Мінскі», 0,5 л | 700 | **650** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 650 | **550** |
| Капуста, 1 кг | 450 | **430** |
| Лімоны, 1 кг | 1700 | **1600** |
| Апельсіны, 1 кг | 1450 | **1500** |
| Агуркі, 1 кг | 500 | **500** |
| Памідоры, 1 кг | 850 | **800** |
| Кавуны, 1 кг | 450 | **350** |
| Морква, 1 кг | 500 | **500** |
| Дыня, 1 кг | 1000 | **1300** |
| **Сялянскія прадукты** | | |
| Малако, 1 л | 400 | **400** |
| Смятана, 1 л | 2800 | **2000** |
| Масла, 1 кг | 4000 | **4000** |
| Тварог, 1 кг | 1800 | **1500** |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 1400 | **1500** |
| Бульба, 1 вядро | 2800 | **2400** |
| Алыча, 5-л. вядро | 1500 | **1000** |
| Журавіны, 5-л. вядро | | **7000** |
| Абляпіха, 5-л. вядро | 5000 | **5000** |
| Чарнаплодная рабіна, 5-л. вядро | 3000 | **3000** |

# Пасёлак Беразінскае – свет у мініяцюры

**У адпаведнасці з пастановай Саўміна БССР ад 14 лютага 1949 года на ўскраіне вёскі Гарадзілава ўзнікла торфабрыкетнае прадпрыемства "Беразінскае", а побач і аднайменны пасёлак. На 1 студзеня 2002 года ў мястэчку пражывае 1615 чалавек.**

**Кожны год будуюцца новыя жылыя дамы, ёсць дзіцячы садзік, сталовая, Дом культуры, музычная школа, студыя выяўленчага мастацтва, тэхнічнае вучылішча. Восьмы год працуе сваё тэлебачанне. Штогод праводзіцца турнір па міні-футболу.**

**У Беразінскае прыязджалі і вядомыя майстры эстрады. Выступалі Віктар Вуячыч, Яраслаў Еўдакімаў, Якаў Навуменка, Валерый Дайнека, Іна Афанасьева... З Масквы наведвалі мястэчка знакамітая паэтэса Рыма Казакова, спевакі Міхаіл Міхайлаў і Алена Ільіна.**



Фота Мікалая ХАДАСЕВІЧА.

**Гэтая каплічка сустракае кожнага каля дарогі пры ўездзе ў Беразінскае.**

■ СІТУАЦЫЯ

## Дзяржаве і мястэчку дапамагаюць мецэнаты

**У Гарадзілаўскай сярэдняй школе, што ў Беразінскім, ужо чацверты год працуе псіхолаг з Маладзечна. Таццяна Грышэль тры гады таму атрымала запрашэнне з Беразінскага і не адразу, але згадзілася.**

Беразінскія бізнесмены сталі ініцыятарамі запрашэння на працу псіхолага. Выпускнікі Генадзь Гаўрыс і Дзмітрый Рындзевіч дамовіліся паміж сабой дапамагчы роднай школе. Генадзь адкрыў новую бібліятэку, а Дзмітрый знайшоў аднаго з лепшых спецыялістаў з Маладзечна і, галоўнае, угаварыў таго працаваць у мястэчку, зацікавіўшы матэрыяльна.

– Над прапановай думала два тыдні. Трэба было рашыцца пакінуць прэстыжную працу ў горадзе. Прыехала ў Беразінскае, паглядзела на мястэчка. Толькі пабачыўшы на свае вочы тэлестудыю, фізкультурна-аздараўленчы комплекс, зразумела, што тут можна працаваць. І не шкадую.

### Праца ці грошы?

– Любімая работа – гэта калі прафесія і хобі супадаюць, пры гэтым яна яшчэ добра аплачваецца. Паасобку і тое, і другое губляе сэнс. Калі ўжо пацяг не да чагосьці аднаго, раю звярнуцца да псіхолага.

– А грошы з чужой кішэні вас не саромяць?

– У развітых краінах апякункі савет школы, які складаецца толькі з бацькоў вучняў гэтай школы, зацвярджае на пасады дырэктара і настаўнікаў. За кошт прыватных узносаў запрашаюць да сябе лепшых спецыялістаў, вызначаюць зарплату кожнага педагога. Трэба зразумець, што грошы – гэта матэрыялізаванае прызнанне цэбе як спецыяліста. Сорамна атрымліваць малую зарплату.



Фота Мікалая ХАДАСЕВІЧА.

**Маладзечанскі псіхолаг Таццяна Грышэль прыязджае ў Беразінскае на работу з горада.**

### Спецыялісты на сяле

– Высокакласныя спецыялісты ў сельскай мясцовасці рэдкасць?

– Пасёлак – гэта свет у мініяцюры. І як усюды, тут патрэбны і добрая бібліятэка, і тэлебачанне, і школа. А грошы трэба ўкладваць у самае лепшае. Дарэчы, дрэнны спецыяліст можа загубіць нават самую геніяльную ідэю: "які садоўнік, такі і сад". У школах нашага раёна хапае прафесіяналаў.

– У Гарадзілаўскай школе таксама?

– У нас выдатныя педагогі – філолагі, матэматыкі, выкладчыкі замежнай мовы. Той факт, што апошнія чатыры гады амаль усе выпускнікі паступілі ў вышэйшыя навучальныя ўстановы, гаворыць сам за сябе.

У школе шмат таленавітых дзяцей, але гэта таксама праблема. Часта іх інтэлектуальнае развіццё апярэджвае эмацыянальнае. Ім цяжка ўпісацца ў калектыў. Успрымаюцца настаўнікамі "брыдкім качанём", ім сумна на занятках, яны не хочуць слухаць, а паводзіны і выказванні нестандартныя. Безумоўна, узнікаюць канфлікты. Псіхалагічная дапамога аказваецца тады ўсім удзельнікам канфлікту. Многім настаўнікам трэба вучыцца берагчы чужы талент.

### Хто такія мецэнаты

**Мэцэнаты думаюць стратэгічна, а не тактычна. Іх дапамога карысна грамадству ў цэлым, пры гэтым адсутнічае матэрыяльная выгада самому мецэнату. Яны дапамагаюць культуры. Увогуле, мецэнацтва – гэта духоўны акт, такія людзі жывуць напружаным духоўным жыццём і адчуваюць адказнасць за ўсіх, за кожнага паасобку, а не толькі за сябе. Звычайна ў мецэнатаў дома шмат кніг.**

### Праблема голых сцен

– Калі б мне прапанавалі нешта змяніць у школе, то я б вырашыла праблему голых сцен, асабліва дзе вучацца першыя класы.

Сімвалічны сэнс голых сцен – яны аддзяляюць чалавека ад самога сябе, імі лягчэй кіраваць. Акрамя таго, трэба улічыць той факт, што чым складаней зрокавае ўспрыманне, тым больш актыўны мозг. Сцены павінны быць з усемагчымымі адлюстраваннямі. Можна дазволіць размаляваць сцены вучням разам з настаўнікамі (адміністрацыя школы адмовілася ад гэтай рэвалюцыйнай ідэі), можна арганізаваць выстаўку мясцовых мастакоў. На апошняе не згаджаецца кіраўнік студыі выяўленчага мастацтва.

### Псіхалагічныя заняткі

– Па духу мне бліжэйшая пазіцыя псіхолага Эткінда: псіхолаг у школе – гэта своеасаблівая "бабуля", у якой можна паплакаць, шчыра ўсё спытаць і атрымаць адказ, набрацца сіл, каб жыць далей, навучыцца заўсёды быць пераможцай. На другім месцы – прафарыентацыя і г.д. Дзверы псіхолага павінны быць заўсёды адчынены для тых, каму трэба дапамога. Я катэгарычна супраць сумяшчальнікаў. Не магу нават уявіць дзіця ў слязах перад зачыненымі дзвярыма псіхолага, бо той чалавек шафёр ці ў дадзены момант вядзе ўрокі. Увогуле школьніку павінна быць камфортна, спакойна, утульна і, самае галоўнае, бяспечна.

– Настаўнікі спецыяльна да вас нікога не прыводзілі?

– Псіхалогія недапушчальна з ціскам ці насіллем над чалавекам. У пачатку года мы з пачатковых класаў па заяўцы настаўнікаў выбіраем вучняў з паводзінамі, якія адхіляюцца ад нормы. Старшакласнікі прыходзяць самі.

А настаўнікі просяць даць рэкамендацыю, як весці сябе з цяжкімі падлеткамі, каб не выклікаць іх агрэсію ці іншую адмоўную рэакцыю.

– Дзеці вас не баяцца?

– Тры гады назад баяліся. Псіхолаг у іх асацыіруецца з псіхіятрам. Не разумелі – навошта ісці да псіхолага. Зараз зусім іншая справа. На два тыдні наперад ідзе запіс. Пачаргой ідуць дзеці і дарослыя ў выпадку канфліктных сітуацый, страхаў, дэпрэсій.

**Атрымліваецца наступная сітуацыя: дзяржаўныя ўстановы ў наш час не маюць магчымасці запрасіць да сябе на працу высокакласных спецыялістаў. Нашым школам, бальніцам, бібліятэкам могуць дапамагчы толькі мецэнаты.**

**Мікалай ХАДАСЕВІЧ.**

■ КУЛЬТУРА

## Беразінскае тэлебачанне

**Тэлестудыя "Наш час" з'явілася ў Беразінскім у 1995 годзе па ініцыятыве аднайменнага саюза моладзі. З дапамогай першага трубнага завода "Рамас" закупілі тэлеапаратуру.**

Кваліфікаваных кадраў, зразумела, не было. Выпускі праграм стараліся мясцовымі жыхарамі. Толькі праз два гады на тэлестудыю прыйшла Ірына Гаўрыс, якая мела вопыт работы на Беларускім тэлебачанні. Гэта быў крок наперад. З'явілася шмат новых рубрык, да працы пачалі далучацца школьнікі, дарэчы, яны стварылі маладзёжную праграму "Скрыжаванне".

У 2000 годзе ў першага трубнага і торфабрыкетнага заводаў узніклі цяжкасці з фінансаваннем. Тэлестудыю пакінула Ірына Гаўрыс. Райвыканкам падтрымаў беразінцаў, студыя атрымала статус народнай. Расшырыліся на раён і рамкі працы беразінцаў.

Кіраўнік народнай тэлестудыі Людміла Глушэц расказала, што цяпер працуюць 5 чалавек. Выпускі праграм беразінцы глядзяць кожны суботні вечар у восем гадзін. Паступова з'яўляюцца новыя рубрыкі: "Па роднаму краю", "Эскіз знаёмага партрэта", дзе расказваецца пра мясціны і вядомых людзей раёна.

Людміла Глушэц адзначае, што жыхары і госці мястэчка маглі пабачыць уласныя інтэрв'ю з Юрыем Шаўчуком з групы "ДДТ", Інай Афанасьевай, рок-групамі "Крама" і "Яблычны чай" і многімі іншымі.

Два гады таму планавалася на базе беразінскай тэлестудыі стварыць раённае тэлебачанне. Быў падрыхтаваны праект, райвыканкам ідэю падтрымаў, а гарвыканкам правёў апытанне сярод прадпрымальнікаў і жыхароў горада і адмовіў у фінансаванні. Праект закрылі.

Тэлеапаратура пасля сямі год працы паступова зношваецца. Як адзіны выхад з гэтага становішча Людміла Глушэц адзначае магчымую падтрымку генеральнага дырэктара кампаніі "Рамас" Генадзя Гаўрыса. Магчыма, у хуткім часе ў тэлестудыі з'явіцца лічбавая апаратура, што дазволіць беразінцам выстаўляць сваю прадукцыю за межы раёна, удзельнічаць у конкурсах і паказваць сваім гледачам больш якасную карцінку.

**Мікалай ХАДАСЕВІЧ.**

■ БУДАЎНІЦТВА

## Новыя пляцоўкі на спорткомплексе «Гармонія»

**У Беразінскім заканчваюць будаваць новыя спартыўныя пляцоўкі. Праз некалькі дзён каля фізкультурна-аздараўленчага комплексу (ФАК) "Гармонія" будуць здадзены ў эксплуатацыю дзве пляцоўкі: адна для валейбола, другая – для баскетбола, міні-футбола і, магчыма, вялікага тэніса.**

У 1998 годзе саюз моладзі "Наш час" выступіў з ініцыятывай будоўлі сучаснага спорткомплексу. Матэрыяльна дапамог торфабрыкетны завод. Будынак ад дзіцячага садзіка пуставаў апошнія тры гады, менавіта яго было вырашана рэканструяваць. Усяго праз год беразінцы займаліся спортам у новым фізкультурна-аздараўленчым комплексе. Кіраўніком ФАКа некалькі год прапрацаваў мінскі трэнер па кікбоксінгу Барыс Еўтуховіч.

Цяпер загадчыкам комплексу "Гармонія" і аднначасова метадыстам-інструктарам па фізічнай культуры і спорту ВРУП "Беразінскае" з'яўляецца Юрый Садоўскі. Ён расказаў, што цяпер працуе каля дзесяці спартыўных секцый: атлетычнай і рытмічнай гімнастыкі, шахмат і шашак, настольнага тэніса і самаабароны. Таксама на базе пакою адпачынку існуе "Клуб выхаднога дня". Спорткомплекс працуе з 9.30 раніцы да палова дзесятай вечара. Грошы за ўваход плаціць не трэба.



Фота Мікалая ХАДАСЕВІЧА.

**Беразінец Павел Яцына займаецца ў фізкультурна-аздараўленчым комплексе з першага дня яго адкрыцця.**

Працуюць два штатныя работнікі, яшчэ некалькі чалавек дапамагаюць па ўласнай ініцыятыве. Кожную восень праводзяць набор усіх жадаючых у школе і ў ПТВ-42. Камплектуюцца групы дарослых. Юрый Садоўскі гаворыць, што большасць людзей прыходзіць зімой, калі хапае свабоднага часу.

На базе спорткомплексу праходзяць спаборніцтвы сярод беразінцаў і работнікаў завода. Шашкі і шахматы традыцыйна зімой, восенню і вясной гуляюць у настольны тэніс і дартс. Пакуль толькі турніраў па кікбоксінгу не праводзяць. Хаця некаторыя выхаванцы Барыса Еўтуховіча ў свой час выязджалі на турніры ў Брэст і Мінск.

Кіраўнік фізкультурна-аздараўленчага комплекса сказаў, што ёсць некаторыя праблемы з будаўніцтвам пляцовак: не хапае гумы, каб поўнасцю выкласці пляцоўку для міні-футбола і баскетбола. Грошай у завода на закупку матэрыялу, якога не хапае, таксама няма.

У пачатку кастрычніка на базе Маладзечанскага раёна пройдзе рэспубліканскі семінар кіруючых работнікаў. Беразінскі фізкультурна-аздараўленчы комплекс – адзін з чатырох аб'ектаў раёна, якія плануюць наведаць удзельнікі семінара.

**Мікалай ХАДАСЕВІЧ.**

